# НАВІНКІ

10 - 17 красавіка 2003 №10(89) Кошт свабодны

**НАВІНКІ TV**
Праграма тэлебачаньня
14-20 красавіка 2003

# А што, калі Садам ПЕРАМОГ?




Бравыя англа-амэрыканскія салдаты штурмуюць Багдад. Войскі кааліцыі кантралююць амаль увесь цэнтар іракскай сталіцы. Насельніцтва Іраку з разуменьнем ставіцца да місіі саюзьнікаў па збаўленьні іх ад крывавай дыктатуры Садама Хусэйна й вадварэньні дэмакратыі ў іхнюю краіну. Паўсюль буйным цьветам расквітнела марадзёрства й рабаваньні ўрадавых будынкаў ды офісаў партыі БААС...

Прыкладна такая карцінка прадстаўляецца нам з экранаў тэлевізараў разнастайнымі каналамі. І сапраўды воляй-няволяй верыш: Садаму настаў капец! Аднак зь іншага боку закрадаецца сумнеў. Як магла 25-мільённая краіна прагнуцца пад нейкі там 150-тысячны экспэдыцыйны корпус саюзьнікаў? Ну, здаецца, ніяк... І тут на дапамогу сьпяшаецца здаровы глузд. А што, калі ўсё, што мы бачым па целеку – грандыёзная галівудзкая пастаноўка? Ну, прыгадайце, фільм «Махлярства» («Хвост, які матляе сабакам»)! Там для падтрыманьня рэйтынгу прэзыдэнта ЗША таксама была разыграная маленькая, але пераможная вайна з Албаніяй, прычым віртуальная.

Такім чынам, нас проста канкрэтна дураць! Усё, што мы бачым, гэта толькі дэкарацыі ў павільёнах кінастудыі «Каламбія пікчэз», дзе прафэсійныя статысты адпрацоўваюць дзённы заробак.

А насамрэч вайсковыя дзеяньні разьвіваюцца паводле іншых сцэнароў (калі толькі яны сапраўды маюць месца ў рэгіёне Пэрсідзкага заліву). Напрыклад, іракская армія з ходу апракінула англа-амэрыканскіх агрэсараў і перайшла ў контарнаступ, нанесшы ўдар па марыянэтках Пэнтагону. У выніку апэрацыі «Свабода Саудаўскай Аравіі» ўвесь экспэдыцыйны корпус саюзьнікаў разьбіты або здаўся ў палон, пад кантролем Садама Хусэйна апынуўся практычна ўвесь Аравійскі паўвостраў. Дзяржава Ізраіль яшчэ ўчора была скінутая ў мора. Іракскі дэсант высадзіўся ў ваколіцах Вашынгтону... А тое, што бачыце вы – хлусьня!



## Ахмурэньне «зуброўкі»

Новыя вэрбовачныя тэхналёгіі апазыцыі

на стар. 2

## КАЛІ Б ЗАЎТРА БЫЛА ВАЙНА...

СТАР. 6,11

## Погляд на нас зь Le Monde diplomatique

Стар. 4




Газэта «Навінкі» выходзіць зь лютага 1998 г. Зарэгістраваная ў Дзяржаўным камітэце па друку Рэспублікі Беларусь 23.02.1999 г. Пасьведчаньне аб рэгістрацыі №1272. Заснавальнікі: П.Канавальчык, А.Новікаў, А.Мазур. Юрыдычны адрас рэдакцыі: г.Менск, пр.газ.«Известия», 9-143. E-mail: kampramat@tut.by; Галоўны рэдактар Паўлюк Канавальчык. Адрас для карэспандэнцыі: п/с 33, 220134 Менск, БЕЛАРУСЬ; Надрукавана з гатовых дыяпазытываў у ПРУП «Чырвоная Зорка», г. Менск, 1-ы Загарадны зав., 3. Заказ №2385
Нумар падпісаны да друку 10.04.2003г., а 00.01. Тыраж 3000 экз.

## ДАты

### За ўсё прыгожае!

Тыя, хто не пасьпеў адзначыць **1 красавіка** 250 ўгодкі са дня народзінаў Жазэфа дэ Мэстра, роднага бацькі кансэрватызму і палітычнага экстрэмізму, могуць спакойна зрабіць гэта па старому стылю – праз два тыдні па юліянскім календары зноў будзе 1красавіка, гэтак кажучы, праваслаўны Дзень гумару. Жазэф дэ Мэстр слаўны яшчэ й тым, што можа па поўнаму праву лічыцца патронам усіх разьвадзілаў. Пры двары Аляксандра І граф служыў паслом Сардыніі, неіснуючай на той час дзяржавы, пэнсіён каралю якой выплочваўся з кішэні расейскіх падаткаплацельшчыкаў. Граф на гэтыя грошы жыў не сумаваў, а яшчэ займаўся контррэвалюцыйнай агітацыяй (наязжаў на дзеячоў францускай рэвалюцыі, справа, у той час, як ня менш знакаміты крытык францускай рэвалюцыі маркіз дэ Сад займаўся тым самым, толькі зь левага боку)

**У красавіку** ўвогуле сьвяткуюцца 450 ўгодкі са дня сьмерці Франсуа Рабле (1494-1553) – легендарнага францускага пісьменьніка, аўтара энцыкляпэдыі францускага жыцьця Рэнэсансу «Гаргантюа і Пантагруэль».(Стрытэйджэры могуць адпачыць). Дакладная дата невядомая, таму ўвесь красавік можна выконваць параду, якую даў Панургу аракул Боскай бутэлькі: «Трынк!», што значыць: «Бухай!»

**10 красавіка** 120 год са дня нараджэньня Аляксея Талстога — савецкага графа і таты Бураціна (1883-1945). Шмат пісалі пра гэтую загадкавую казку, дзе нібыта на сюжэт італьянца Калодзі Талстой наклаў сатыру на савецкую рэчаіснасьць, пад татай Карла вывеў Карла Маркса, а пад Карабасам Барабасам – рэжысэра-фармаліста Меерхольда.

**12** акрамя дня касманаўтыкі можна адзначыць 375 год са дня нараджэння казачніка Шарля Пэро (1628-1703), які прыдумаў Ката ў ботах, Папялушку і Чырвоны Каптурок напачатку дзеля забавы сьвецкіх дам і казкі мелі эратычны зьмест. Пасьля ўжо суровыя пэдагогі выкрэсьлівалі палавыя гульні ваўка з бабуляй перад зьдзяйсьненьнем акту эратычнага канібалізму.

**15 красавіка** 100 год са дня нараджэньня Эрыха Арэндта (1903-1984), нямецкага паэта-антыфашыста, які змагаўся ў гішпанскіх брыгадах у 1936-39. Доўга жыў у Паўднёвай Амэрыцы, пасьля ў ГДР.

# На сьмерць паэта

## *Калі паэт ператвараецца ў манаграфіста*

**Ігар Бабкоў**
***Філасофія Яна Снядэцкага***
Вільня, 2002

Ігар Бабкоў вядомы, як аматар шакіраваць публіку. У 1980-я песьня на ягоныя вершы ў выкананьні Касі Камоцкай «тата купі мне карблік» атрымала




вядомасьць і прызнаньне сярод камароўскіх растаманаў, якія караблікам прызвычаіліся называць карабок марыхуаны. Часопіс *Фрагмэнты*, рэдактарам якога з 1998 года ажно да пачатку Калі-Югі ў Беларусі нязьменна быў І.Бабкоў, таксама быў надзвычай шчодры на тэксты з эпатуючым і раздражняючым дробнамяшчанскую сьвядомасьць зьместам. Напрыклад першы пасьлярэфэрэндумаўскі нумар часопіса *Фрагмэнты* пачынаўся з рэдактарскага артыкула «Народ памёр». Гэтым самым Бабкоў паставіў сябе ў адзін шэраг з вялікімі папярэднікамі, канстататарамі «сьмерці»: Ніцшэ, Фуко, і Бартам, якія сьцьвердзілі па чарзе: сьмерць Бога, Чалавека і Аўтара. У інтэрпрэтацыі Бабкова гэта значыць, што памерлі ілюзіі дэмакратычнай інтэлігенцыі на народ, памерла ілюзія пад назвай «народ», на якую ўкладалі свае спадзяваньні інтэлектуалы. З другога боку, нябожчыкаў бабкоўскіх папярэднікаў – абстрактных Бога, Чалавека і Аўтара ніхто ніколі ня бачыў жывымі і здаровымі, таму і паведамленьне пра іх сьмерць нікога асабліва не хвалявала. Калі Бабкоў аб'явіў сьмерць народа, якога кожны мае шанец сустрэць штодня на вуліцы,таму зьвесткі пра заўчасную «сьмерць народа» падаваліся крыху перабольшанымі.

У 2000-м годзе выйшаў даўгачаканы «раман» Ігара Бабкова «Адам Клакоцкі я яго цені», які задаволіў духоўныя патрэбы аматараў чытаніны пра тое, што «хто пісаў ня зная, а я, дурань,чытаю». У некаторых фрагмэнтах рамана (у якім бачацца даволі празрыстыя намёкі на знаёмасьць аўтара з Картасарам і Борхесам ды й іншымі аматарамі муціць ваду на чыстым месцы), можна пазнаць некаторыя знаёмыя рэаліі:

*«У гэтай частцы сьвету (у тэкстах Клакоцкі называў яе заўсёды Паўночнай Сарматыяй, але ў прыватных гутарках – Вялікім Шпіталем) няма нічога вызначанага: лёгшы спаць балтам ты прачынаесься славянінам, выйшаўшы з дому палякам, вяртаесься немцам, з усіх бакоў цябе спрабуюць пераканаць, кім ты ёсьць і кім ты ня мусіш быць.»*

Але вось, паэт, натхнёны наратар міфаў пра Паўночны Шпіталь для сарматаў выдаў нарэшце яшчэ адзін твор. Як тут не ўзгадаць:

*«І якраз у гэты момант увайшла здань самотнага манагрфіста Фінегана Зялёнага».*

Кніга «Філасофія Яна Снядэцкага» кардынальна розьніцца ад усяго, што было напісанаБабковым раней. Аматары загадак безумоўна знойдуць глебу для разважаньняў і месца для мэдытацыйнага дыванка. Напрыклад,спасылка №12 да кнігі спасылае на... саму сябе!

Так, «Філасофія Яна Снядэцкага, Вільня, 2002». Гэта вам не кітайскі цмок, які кусае свой хвост! Між тым, кніга – гэта нішто іншае, як кандыдацкая дысэртацыя Бабкова па філязофіі, якую той зьбіраецца бараніць. Адно гэта зьяўляецца фактам станоўчым. Праўда, для абмежаванага кола спэцыялістаў. Усе ведаюць, што пачытаць поўны тэкст кандыдацкай дысэртацыі па гуманітарных дысцыплінах у нашых бібліятэках могуць толькі дактары навук. Такое правіла. Таму, аматары пісаньня навуковых прац могуць спакойна адшкадаваць пару-тройку тысячаў на рарытэт. З надпісам «Фрагмэнты 10»—часопіс, якога ўжо няма.

**_Ulica Wszystkich Swietych_**
Незалежнае выдавецтва, 2003

Вэтэран люблінскага самвыдату Леле (ён справа на вокладцы) даслаў нам чарговы нумар свайго зіну. «Вуліца» значна адрозьніваецца ад нашых мясцовых зінаў, бо робіцца людзьмі сталымі і сур'ёзнымі, фактычна DIY тут толькі ў фармаце – складзеныя паплам аркушы А4, ніяк не сшытыя.

Па зьмесьце – самы звычайны польскі літаратурна-мастацкі часопіс, якіх там выходзіць з паўсотні, калі ня больш. Там уся гэтая хваля пачалася значна раней, таму можна спадзявацца, што падобная бяда чакае і нашых кандовых DIY-шчыкаў – Грына, Ленін і Джэці (асабліва, калі апошнія пасканчаюць свае асьпірантуры), іншых дзеячоў мастацтва.

Вось, напрыклад, урывак з тэатральнай п'есы пад назвай «Няма», надрукаванай у нумары *Ulicy*:

*Mnie tu nie ma. Tak. Nawet tu mnie nie ma. Ni chuja. Ja podzielony, ja nie jestem...*

Відавочная замарочанасьць польскай анархатусоўкі гуманітарнай адукацыяй вершамі Herberta і Milosza.

Афарызмы і паэмы ў прозе.

Наступства – галоўны грэх сумневу. Аднаго разу распачатая гэтая працэдура хутка ператварае сьвет у руіны, робіць так, што сонца перастае сьвяціць, а багі паміраюць. І тады, перад абліччам зьнішчэньня і бессэнсоўнасьці адныя зьдзяйсьняюць самазабойства, а другія пачынаюць працаваць і адбудоўваюць тое, што самі зьнішчылі. Выглядае так, як быццам можна было б вараціць стары парадак і акруціць час назад ажно да Дэкарта.

Ёсьць парады для актыўных юзераў інтэрнэту, якія занадта актыўна дыскутуюць на чатах і іх выкідваюць сьвірэпыя адміны. Нам пакуль гэта не пагражае. У беларускамоўным нэце вольна адчуваць сябе нават самыя яўныя экстрэмісты.

Польскія зіны – гэта не толькі тое, што нас магчыма чакае, а тое, што можа рабіць кожны і не спадзявацца на літасьць рэдактараў «тоўстых часопісаў», якія мараць разьвесьці рэдкіх грантадаўцаў і якім да лямпачкі зьмест, выгляд і ўвогуле праблемы аўтараў. Зрабі свой DIY з дапамогай нажніцаў, клею і ксэраксу, будзеш сам сабе рэдактар ●

**П.Якубовіч,**
рэдактар фан-зіну СБ

# Цінта Брасу – 70!

## Парнуха як адзін зь відаў мастацтва

**26 сакавіка па грэгарыянскім календары італьянскаму рэжысэнто Цінта Брасу споўнілася 70 год. Пачэсная дата! Тут бы й на спакой. Але год таму, акурат 12 красавіка 2002 году старычына Цінта зьняў свой апошні фільм – «Senso'45».**

**Першае сваё кіно Цінта Брас пачаў здымаць яшчэ ў 1964 годзе. Хто пра яго ведаў? Акрамя спэцыялістаў, ніхто. «Калігула» з Малькальм Макдаўэлам прынёс аўтару сусьветную вядомасьць. Пасьля быў «Ключ» (La Chiave), які проста ўзьнёс Браса на пантэон эўрапейскага кіно. Калі посьпех «Калігулы» можна тлумачыць гульнёй бясспрэчных зорак, такіх як Малькальм, які выцягне якую заўгодна стужку, то «Ключ» застаецца яўнай і абгрунтаванай заяўкай на бесьсьмяротнасьць у эўрапейскім мастацтве.Мэтафізычная звышзадача фільма - праілюстраваць філязофію італьянскага фашызму мовай эротыкі. Палавы акт пад гукі фашыстоўскага маршу – састарэлая Італія спрабуе аднавіць свае**



**сілы з дапамогай энэргіі, якая ёй не падпарадкоўваецца, дэкаданс саступае жыцьцёвасьці. Зь цягам часу маэстра зышоў да сьпяваньня кантатаў фізыялёгіі простага спалучэньня, сёньня ён часьцей выступае ў ролі арганізатара, прад'юсэра, мэнэджэра фільмаў, пакідаючы поле прыкладаньня творчай энэргіі маладым, злым і няўрымсьлівым. Хто паўторыць «All Ladies Do It»? – фільм нарабіў фурору ў эўрапейскіх акадэмічных колах. Сюжэт просты: чувырла зваліла ад мужа, у якога праблемы, і кінулася ва ўсе цяжкія. Але—якія геніяльныя кадры, якія цытаты з кіношных папярэднікаў! Калі трэба, Цінта можа і на Таркоўскага спаслацца і на Бэргмана. Сужонская пара атрымлівае ўзаемаразуменьне, калі натыкаецца на каклекцыю эратычных фільмаў 30-х гадоў, што ў сымбалічнай форме здымае ўяўныя пакровы з «таталітарнага мадэрну 30-х» і ўсталяе сувязь пакаленьняў эўрапейскіх лібэртынаў. Сярэдні эўрапеец са сваімі сэксуальнымі праблемамі аказваецца больш сымпатычным, чым яго сучасьнікі, якія выконваюць вялікую місію па загаду альбо дыктатараў, альбо бясспрэчных змагароў з дыктатурамі. Дасканала валодаючы тэхнікай сучаснага элітарнага кіно, Цінта Брас узьнёс звычайную парнушку на вышыню твору мастацтва, пра які не сорамна ламаць дзіды масьцітым крытыкам кінематаграфіі. Спадзяемся, што ў майстра будуць геніяльныя вучні, якія не пакінуць ані каменьчыка ад нашых уяўленьняў пра эўрапейскае кіно ●**

**Мікіта Ні-Халкоў,**
рэжысэр



**Апошняе фота Садама Хусэйна, яшчэ не паруганае амэрыканцамі.**